


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 9 (270) ЧЭРВЕНЬ 2019 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

***Ёсць у нас гаспадары, што топчуцца па дабры***

***Якуб Колас***

УЛАДА

## БОЛЬШАЯ ВСТРЕЧА С ЖИТЕЛЯМИ

**Только вместе, только сообща можно добиться того, чтобы наш район стал уютнее и краше, а жизнь людей -комфортне и лучше. Об этом в ходе большого разговора с жителями г.Городка, который прошёл 13 июня, заявил председатель районного исполнительного комитета Пётр Коробач. Про это пишет «Гарадоцкі веснік».**

В ходе мероприятия городокчане озвучили вопросы, которые их волнуют не первый день, получили ответы «из первых уст».

— Не секрет, что наш район является дотационным, — подчеркнул П. Коробач. — Доходная часть бюджета на текущий год составляет 31989,83 тыс. руб., удельный вес дотации — 51,7%. Около 37% бюджета составляет финансирование деятельности учреждений образования района, в том числе на приобретение школьных автобусов, автомобилей для подвоза продуктов питания, технологического оборудования для пищеблоков, электронных средств обучения и компьютерной техники, на укрепление материально-технической базы учреждений дополнительного образования детей и молодёжи, капитальные и текущие ремонты, капитальный ремонт средней школы и детского сада в г. п. Езерище в рамках программы «Малые города». Также запланированы средства на финансирование учреждений здравоохранения и культуры, социальной отрасли, физической культуры и спорта, отраслевого хозяйства и природоохранной деятельности, жилищно-коммунального хозяйства, благоустройство населённых пунктов.

Особое внимание в ходе встречи глава исполнительной власти района уделил сфере торговли. Вокруг закрытия ряда точек общепита и хлебозавода в городе ходили различные слухи, поэтому для людей очень важно было услышать официальную версию.

- В настоящее время торговое обслуживание населения района осуществляют 81 юридическое лицо и 127 индивидуальных предпринимателей, — подчеркнул Пётр Коробач. — Только с начала года было открыто четыре торговых объекта — частный магазин «Пинский трикотаж» в г. Городке, магазин «Лотос» на площадях торгового объекта «Копеечка», частные продовольственные магазины в д. Веречье и в г. п. Езерище. В связи с убыточностью Городокского райпо в 2019 г. Лепельскому райпо передано 23 продовольственных магазина и 6 автолавок, кафе «EXPRESSиЯ», кафе «Горожанка», ресторан «Радуга». Торговое обслуживание жителей малых населённых пунктов осуществляют автомагазины: ОАО «Витебский мясокомбинат», ОАО «Витебская бройлерная птицефабрика», Смоленского и Полоцкого рынков, РУП «Белпочта». 13 индивидуальных предпринимателей осуществляют выездную торговлю на легковых автомобилях.

Кроме того, что в связи с переходом к Лепельскому райпо люди потеряли работу, сегодня не функционирует ресторан и ряд торговых объектов в городе и на селе. Со слов Петра Коробача, местная власть делает всё возможное, чтобы закрытые магазины возобновили свою работу. В частности, всячески способствует тому, чтобы открылся магазин по ул. Гагарина. Однако он не привлекает представителей крупных сетей из-за близости «Евроопта» по ул. Толкачёва, а для частников сумма аренды, которую запрашивает облпотребкооперация, является неподъёмной.

Разъяснить причину закрытия хлебозавода председателя попросил предприниматель из Городка Физлидин Батманов. Пётр Коробач отметил, что в связи с износом оборудования, которое служило более 20 лет, три года назад предприятию решением районного Совета депутатов предоставили льготы по налогообложению с условием, что ежегодно высвободившиеся денежные средства в размере более 100 тыс. руб. будут направлены на ремонт и закупку необходимого хлебозаводу оборудования. Однако этого не произошло. При этом хлебозавод весь указанный период приносил прибыль. Даже перед закрытием, в марте текущего года, его рентабельность составляла 7%, хлебозавод был единственным в структуре райпо прибыльным подразделением.

— Если бы производство было модернизировано, мы бы отстояли хлебозавод, — подчеркнул Пётр Коробач. — А в таком состоянии, в каком он находится сейчас, Лепельскому райпо он оказался не нужен.

Мнением главы района о приоритетных направлениях сельского хозяйства поинтересовался городокчанин Виктор Камышов. Пётр Коробач отметил, что раньше говорили: на Городокщине собирать хорошие урожаи зерновых и многих других сельскохозяйственных культур нельзя. Современная техника, семена, а главное, соблюдение технологического процесса

*(працяг на стар. 2)*

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

АПЫТАННЕ

## ПРА ЕЎРАПЕЙСКІЯ ГУЛЬНІ

**У чэрвені месяцы ў нашых сацыяльных групах ВК і АК мы правялі апытанне аб адносінах да ІІ Еўрапейскіх гульняў. Дадзенае апытанне прагледзела больш 2200 чалавек і адказала крыху больш 100 чалавек.**

Апытанне паказала, што адносіны да ІІ Еўрапейскіх гульняў залежаць ад узроста чытача. Так у больш маладзейшай сацыяльнай сетцы УКантакце, дзе прагаласавала 76 чалавек, каля 40% адказаўшых пазітыўна аднеслася да гульняў. Толькі палова з іх пашкадавала, што не маюць грошаў, каб з'ездзіць на гульні – 21,05%.

Пры гэтым амаль кожны сёмы – 13,16% лічыць, што ІІ Еўрапейскія гульні – "забаўка для кіраўніка краіны", "гульні не цікавяць, бо маю іншыя праблемы" -- 19.74 %. І больш чвэрці апытаных – 26,32%, што гульні – "марнае выдатканне народных грошаў".

Іншае размеркаванне варыянтаў адказаў сярод чытачоў з Аднакласнікаў, дзе прыняла удзел у апытанні толькі 25 чалавек з тысячы, якія прагледзілі апытанне на працягу шасці дзён. Тут такое размеркаванне галасоў наконт адносінаў да ІІ Еўрапейскіх гульняў. Так "пазітыўныя" – ў 12%, " пазітыўныя, але няма грошаў, каб з'ездзіць на іх" -- 8%, "забаўка для кіраўніка краіны" -- 12%, "марнае выдатканне народных грошаў" -- 20%, "гульні не цікавяць, бо маю іншыя праблемы" -- аж 48% удзельнікаў апытання.

З нашага апытання вынікае, што Еўрапейскія гульні 2019 году ў Беларусі цікавы з большага іх арганізатарам, а большасць нашых чытачоў скептычна ставіцца да іх і наракае на цяжкае жыццёвае становішча не залежна ад ўзроста. Бо галасавалі ў нас тыя, хто дасягнуў 18 гадоў адпаведна сваіх кантактных даных.

**Л. Антонаў**

ЭКСПАЗІЦЫЯ

## «ГАРАДОЧЧЫНА Ў МІНІЯЦЮРЫ»

**Частка экспазіцыі «Гарадоччына ў мініяцюры» са свята «Гарадоцкі Парнас» прадстаўлена ў цэнтральным парку.**

Напярэдадні фэста «Гарадоцкі Парнас» установы Гарадоцкага раёна ажыццявілі добрую ідэю кіраўніцтва раёна — стварылі макеты архітэктурных пабудоў старажытных і сучасных будынкаў Гарадоччыны.

Удзельнікі і госці «Гарадоцкага Парнаса» змаглі убачыць гэтыя вядомыя з гісторыі края архітэктурныя пабудовы раёна, якія 1 ліпеня дэманстраваліся на беразе возера Лугавога.

Першае месца адмысловае журы прысудзіла Бычыхінскай сярэдняй школе, работнікі якой зрабілі мініяцюру Храма Святой Вялікапакутніцы Анастасіі Вызваліцельніцы Вязняў у в. Бычыха.

Другое месца заняла творчая работа настаўнікаў СШ № 1 і СШ № 2 г. Гарадка. Педагогі зрабілі макет Святаўзнясенскай царквы ў в. Кабішча. Трэцяе месца занялі калектывы ТЦСАН Гарадоцкага раёна і Езярышчанскай сярэдняй школы. Сацыяльныя работнікі прадставілі на конкурс міні-версію паштовай станцыі ў в. Кузьміно, а педагогі з Езярышча выканалі ў мініяцюры мясцовы Храм Успення Прасвятой Багародзіцы.

А пасля фэста пяць створаных макетаў размясціліся ў цэнтральным парку на скрыжаванні вуліц Савецкай і Валадарскай. На жаль, толькі каля аднаго макета «Святаўзнясенскай царквы», што ў в. Кабішча маецца інфармацыя і пра аб'ект і імёны стваральнікаў макета. Пра астатнія макеты такой інфармацыі няма, як і пра макет Храма Святой Вялікапакутніцы Анастасіі Вызваліцельніцы Вязняў з в. Бычыха.

Адсутнасць інфармацыі пра макеты асабліва муляе вока, калі назіраеш макеты двух кінатэатраў «Радзіма». Гледачы часам задаюць пытанні: «Гэта макеты аднаго кінатэатра ці двух розных?»

Відавочна, што ў шэрагу макетаў знакамітых пабудоў Гарадоччыны не хапае макетаў царквы з в. Хвошна і знішчанага ў красавіку агнём касцёла з в. Рамні ды і храмаў г. Гарадка. І не толькі.

З часам экспазіцыя «Гарадоччына ў мініяцюры» магла бы стаць цікавым пазнавальным аб'ектам для моладзі і турыстаў у Гарадку. Калі такія макеты будуць выкананы больш прафесійна, як у першых двух пераможцаў...

**Л. Антонаў**
**http://haradoktour.by**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

УЛАДА

***(пачатак на стар. №1)***
позволяют получить в нашем северном регионе хорошую урожайность зерновых, в прошлом году она составила на отдельных участках до 60-70 ц/га. Бич наших полей — это камни, но и с ними при желании можно успешно бороться и результат не заставит себя ждать.

— В сельском хозяйстве нужно просто подойти к земле и посмотреть, что на ней растёт, — отметил Пётр Коробач. — Так, например, кто мог несколько лет назад подумать, что в нашем регионе можно выращивать кукурузу на зерно? А сегодня этим начали заниматься птицефабрика и филиал «Вировлянский».

Высоких показателей достигают животноводческие предприятия нашего региона. Так, сегодня Городокщина занимает 24 место из 118 районов Беларуси по удою молока на корову, что является лучшим результатом в области.

Петру Коробачу были адресованы и вопросы, касающиеся медицинского обслуживания населения. В частности, Татьяна Смирнова из Городка поинтересовалась, каким образом в Городокской ЦРБ планируют создавать безбарьерную среду, как может попасть на приём к стоматологу, кабинет которого находится на втором этаже, ребёнок-инвалид. Главный врач учреждения здравоохранения Валерий Самсонов подчеркнул, что медперсонал поликлиники и больницы при обращении в регистратуру оказывает помощь по доставке человека с ограниченными возможностями к тому специалисту, к которому необходимо. Также главврачу были адресованы вопросы по работе талонной системы, в том числе на сдачу анализов, по поводу очередей в регистратуру в первой половине дня. Валерий Самсонов отметил, что проблема существует: до обеда, когда приходят автобусы с села, очередь в регистратуру действительно бывает. Но после обеда человек может попасть без очереди практически к любому врачу. В связи с этим он рекомендует жителям города заказывать талоны к терапевтам и узким специалистам на вторую половину дня. Забор анализов по талонам — это временная мера, вызванная нехваткой кадров. Однако и в таких условиях граждане вовремя получают любую необходимую им медицинскую помощь и её качество не страдает. Администрация поликлиники постоянно мониторит ситуацию. С возникшими вопросами граждане могут обращаться к главврачу или его заместителям.

По поводу наведения порядка на земле и благоустройства города и населённых пунктов района председатель райисполкома подчеркнул, что здесь важно участие каждого человека, ведь «один в поле не воин». Нужно содержать в порядке свои дома и участки, делать уютными подъезды и дворы. Коммунальникам справиться с этой задачей в полной мере не под силу, тем более что работа, сделанная своими руками, ценится в разы больше чем та, которую кто-то пришёл и выполнил. Важно также беречь элементы благоустройства, в которые вложены немалые бюджетные средства. Пётр Коробач привёл яркий пример, как некоторые граждане ведут себя на лыжероллерной трассе с урочище Воробьёвы горы: залезают на крышу беседки, оставляют после себя мусор, портят имущество и т. д., и в очередной раз призвал городокчан всем вместе беречь и приумножать красоту родного края.

Под занавес мероприятия Пётр Коробач отметил, что такие встречи с населением — это не только возможность информировать о состоянии дел в различных отраслях народного хозяйства: экономике, социальной сфере, строительстве и ЖКХ, беседы позволяют обнаружить актуальные проблемные вопросы, которые волнуют людей и оперативно решить их совместными усилиями. Поступившие в ходе встречи вопросы направлены соответствующим исполнителям и находятся на контроле у главы района.

**Любовь ШЛЕЙКО**
***“Гарадоцкі веснік”***

ФУТБОЛ

# КРУПНАЯ ПОБЕДА В ГОСТЯХ

**8 июня наш ФК «Детскосельский» нанес крупное поражение 6:1 хозяевам в Чашниках. Во втором тайме на протяжении пяти минут Эдуард Изофатов дважды забил сам и сделал две голевые передачи.**

После трехнедельного перерыва наш клуб возобновил игры в чемпионате Витебской области. За это время восточная группа чемпионата области пополнилась еще одним клубом – «Мясокомбинат» из Орши. Будто руководство Оршанского района не знало, что чемпионат области стартует в мае и это сделало нашу группу более массовой на две команды. Будет ли это учтено в играх финальной части или выходят только по три команды – покажет время.

В итоге после различных переносов и выборов времени матча наш клуб в субботу вечером в 18.30 вышел на поле г. Чашники. Весь матч разделился на две части: первый тайм, когда была равная борьба и ничейный счет 1:1 и второй тайм с его нокаутирующей пятиминуткой и общим счетом 5:0 в пользу гостей. Именно во втором тайме с 65 минуты по 70-ю Эдуард Изофатов сначала довел счет до 3:1, а потом сделал две голевые передачи и счет стал -- 5:1, а в конце матча Кирилл Баньков с пенальти сделал счет 6:1.

Главный тренер ФК"Детскосельский" Куряков Сергей так прокомментировал итог матча в группе «Витебская областная "Федерация футбола": «Полностью контролировали ход матча, владели мячом примерно 80/20. Где-то даже заигрались контролем, теряли темп, что позволяло сопернику успевать перестраиваться и закрывать все зоны. Во втором тайме немного упростили игру, начали подключать быстрые фланги. Это сразу принесло результат, солировал Изофатов, когда он поймает кураж его не остановить. Могли забивать и больше, но растранжирили массу моментов. В общем результат закономерен.

Поэтому такие разные получились таймы?

С.К:Во втором тайме стали играть в более агрессивный футбол, добавили в темпе, начали быстрее двигаться, да и соперник немного подсел физически».

Наша команда играла в таком составе: Половинский Артем; Рымарович Андрей; Чернухин Евгений (Просвещенников Влад, 76); Мамлиенко Александр; Демин Александр; Сидельников Артур; Мялик Илья; Баранок Андрей (Баньков Кирилл, 39); Михаил Шашко; Киташев Константин; Изофатов Эдуард.

Голы: 0:1 - Баранок Андрей (1, пас - Михаил Шашко). 1:1 - Маскаленок Михаил (33). 1:2 - Изофатов Эдуард (65). 1:3 - Изофатов Эдуард (67, пас - Сидельников Артур). 1:4 - Демин Александр (69, пас - Изофатов Эдуард). 1:5 - Михаил Шашко (70, пас - Изофатов Эдуард). 1:6 - Баньков Кирилл (89, с пенальти). Предупреждения: Цуран Денис (26), Арашкович Александр (61), Ляхов Василий (83)

В субботу состоялись еще два матча в восточной группе: ФК"Газовик"-ФК"Сенно" 5:0; ФК "Мясокомбинат"-ФК "Нива" 3:1, а в воскресенье состоялся матч: ФК "Славянский Велес"-ФК "Днепр" 6:2. И лидером группы стал ФК «Газовик» -- 7 очков, у ФК «Детскосельский» и ФК «Сенно» -- 6 очков, но у нашего клуба одна игра в запасе.

От редакции. В пятом туре на своем поле ФК «Детскосельский» победил ФК «Сенно» -- 7:0.

**Л. Антонов**

ПАЖАР

# ЗНІШЧЭННЕ ПАБУДОЎ НА ВЁСЦЫ

**У Гарадоцкім раёне за выхадныя дні пажарам знішчаны лазня, хлеў і пашкоджана хата.**

22 чэрвеня ў 18-22 ў Гарадоцкае аддзяленне МНС паступіла паведамленне пра пажар дома ў в. Паташня Гарадоцкага раёна.

У выніку пажару ў доме знішчаны дах, столевае перакрыцце, пашкоджаныя сцены, маёмасць. Акрамя гэтага знішчаны лазня і хлеў.

Прычына пажару высвятляецца.

У якім сельсавеце знаходзіцца гэтая вёска Паташня — Межанскім ці Першамайскім — абласной прэс-службай не паведамляецца.

**Т. Гаражанка**

СЭРВІС

# ПЕНСІЯНЕРА АБЛІЧЫЛІ ЗА БАНКЕТ

**Пенсіянер замовіў банкет, а яго аблічылі на 240 рублёў. У Гарадоцкім раёне распачата крымінальная справа супраць буфетчыцы.**

Сума, якую буфетчыца выставіла пенсіянеру за банкет, здзівіла мужчыну. Высветлілася, што кошт быў завышаны на 240 рублёў.

Пенсіянера, які разлічваўся за застолле, насцярожыла кругленькая сума ў рахунку, і ён выклікаў міліцыю. У выніку ў дачыненні да буфетчыцы адной з устаноў грамадскага харчавання Гарадоцкага раёна распачата крымінальная справа па частцы 1 артыкула 14 і частцы 2 артыкула 257 КК - замах на падман спажыўцоў у буйным памеры, паведамляе газета «Гарадоцкі веснік».

**Іван Дзедушкін**
**"ННВ"**

"БЕЛАГРА – 2019"

# НУПСУ СЯРОД ПЕРАМОЖЦАЎ «БЕЛАГРА»

**Карова Галштынскай пароды Нупсу філіяла «Віраўлянскі» Гарадоцкага раёна заняла годнае другое месца сярод кароў першага ацёла ў конкурсу ў рамках міжнароднай спецыялізаванай выставы «Белагра-2019».**

Найбуйнейшы аграрны форум Беларусі прайшоў 4-9 чэрвеня ў аграгарадку Шчомысліца пад Мінскам і сабраў звыш 550 кампаній з 29 краін. Форум выклікаў цікавасць у тых, хто працуе ў галіне, навукоўцаў-аграрыяў, спецыялістаў і кіраўнікоў сельгаспрадпрыемстваў, тых, хто вырабляе і пастаўляе для сельскай гаспадаркі прадукцыю, машыны, абсталяванне. На «Белагра-2019» традыцыйна з'ехаліся ўсе буйныя вытворцы айчыннай тэхнікі, а таксама дылеры вядучых сусветных брэндаў.

У гэтым годзе дзве трацiны выставачных плошчаў былі занятыя трактарамі, кожны з якіх імкнуўся перасягнуць канкурэнта памерам, магутнасцю і коштам. Галоўнай навінкай выставы стала інавацыйная экспазіцыя «Эксперыментальнае поле». На ёй можна было ўбачыць, параўнаць і ацаніць ўсходы эксперыментальных гатункаў азімай пшаніцы, трыцікале, жыта і ячменю.

Адной з добрых традыцый «Белагра» стала правядзенне конкурсу на лепшую племянную карову сярод кароў малочных парод. У ім прынялі ўдзел каровы з усіх абласцей рэспублікі. Кампетэнтнаму журы трэба было вырашыць нялёгкую задачу — выбраць лепшых з лепшых па вонкавым выглядзе, які павінен адпавядаць пародзе, і прадукцыйнасці ў асобных катэгорыях: па першай, другой, трэцяй, чацвёртай (і больш) лактацыі. Удзельнікі форуму прадэманстравалі поспехі айчыннай селекцыі і тое, што племянныя каровы — гэта карпатлівая праца лепшых спецыялістаў краіны. Менавіта іх праца дазваляе дабівацца высокіх ўдояў ня шляхам павелічэння пагалоўя малочнай жывёлы, а пры дапамозе павышэння прадуктыўнасці статка.

Конкурс рэкламуе дасягненні беларускіх селекцыянераў для замежных гасцей выставы, якіх у гэтым годзе было нашмат больш, чым мінулых форумах. Увыніку расце попыт на беларускае быдла малочных і мясных парод і яго экспарт. Партнёры з Казахстана, Узбекістана, Грузіі заключалі кантракты прама на выставе, тым самым прызнаючы лідэрства Беларусі ў малочнай жывёлагадоўлі.

Карова Нупсу філіяла «Віраўлянскі» з найвышэйшым сутачным удоем 40 кг стала другой у сваёй катэгорыі. Прадстаўнікам Гарадочыны ўручылі грамату, кубак і грашовы прыз. Прызнанне дасягненняў на такім высокім узроўні кажа пра наяўнасць мэтанакіраванай працы і высокай кваліфікацыі калектыву сельскагаспадарчага прадпрыемства.

**Соб. інф.**
**Паводле:**
**http://www.garadvest.by**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# КАЛІ НЕ ЁН, ДЫК ХТО Ж?

**Важная асаблівасць «беларускай мадэлі» — адсутнасць электаральных рэйтынгаў у вышэйшых службовых асобаў дзяржавы.**




Сярод маіх калегаў і знаёмых няма прыхільнікаў расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна. Таксама ў маім блізкім коле няма і тых, хто аддаваў бы перавагу аб'яднанню з Расіяй, а не ўступленню ў Еўрасаюз.

Аднак, калі меркаваць па шматгадовых даследаваннях НІСЭПД, прадстаўнікі еўрапейскага выбару заўсёды знаходзіліся ў Беларусі ў меншасці. Падчас апошняга апытання (лета 2016 года) незалежныя сацыёлагі зафіксавалі наступнае размеркаванне геапалітычных прыхільнасцяў беларусаў: аб'яднанне з Расіяй — 42%, уступленне ў Еўрасаюз — 34%, не здолелі адказаць — 24%.

Варта звярнуць увагу на высокі працэнт рэспандэнтаў, што не далі адказу. Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца: усё, што звязана са знешняй палітыкай, ляжыць па-за межамі штодзённага вопыту простага чалавека. Таму свайго меркавання наконт геапалітыкі ў яго няма і быць не можа.

Аднак усё мяняецца, калі пераходзіць на асобы. Прыводжу размеркаванне адказаў на пытанне: «Як Вы ставіцеся да прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна?» (чэрвень 2012 года): станоўча — 48%, абыякава — 35%, адмоўна — 13%, не здолелі адказаць — 4%.

Упалітыцы ўфутболе, як вядома, разбіраюцца ўсе, але не ў любой палітыцы, а ў рэдукаванай да асабістых адносін. Як кажа мая сястра, чалавек з вышэйшай адукацыяй, якая ўсё сваё свядомае жыццё пражыла ў Ленінградзе-Пецярбургу: «Пры алкаголіку Ельцыне мы ледзь зводзілі канцы з канцамі, а Пуцін — малайчына, таму і жыццё наладзілася».

Пры Ельцыне (1991–1999) сярэдняя цана нафты складала 16,5 долара за барэль. Пры Пуціне яна тры гады запар трымалася вышэй за 110 долараў за барэль. Акрамя таго, большая частка прэзідэнцтва Ельцына прыйшлася на час, калі савецкага парадку ўжо не існавала, а новы яшчэ не сфармаваўся. Але спрабаваць растлумачыць такія «тонкасці» маёй сястры — значыць марнаваць час.

**Не выключэнне, а правіла**

Калі я сутыкаюся па-за сваім блізкім колам з прыхільнікамі расійскага прэзідэнта, што гатовыя абараняць свайго куміра з пенай у рота, задаю ім простае пытанне-тэст: «А чым жа так вызначыўся Пуцін да таго, як стаў прэзідэнтам?» Нескладана здагадацца, што ўцямнага адказу на гэтае пытанне мне яшчэ ні разу не далі.

Заходжу на асабісты сайт нацыянальнага лідара Расіі. У раздзеле «Біяграфія» чытаю: «Пасля вяртання з Германіі ў Ленінград Уладзімір Пуцін з 1990 года займаў пасаду памочніка рэктара Ленінградскага дзяржуніверсітэта па міжнародных пытаннях». Іншымі словамі, ён быў звольнены з органаў, ці я нешта няправільна разумею?

Адпаведных каментараў у інтэрнэце — воз і вазочак. Аднак інтэрнэт — гэта памыйніца, як справядліва ахарактарызаваў сусветнае павуцінне ў свой час адзіны беларускі палітык (АП). Так што я не рэкамендаваў бы спяшацца з адназначнымі высновамі.

«Хто быў нікім, той стане ўсім». Як паказала гісторыя, гэта поўнае аптымізму прароцтва аўтара словаў «Інтэрнацыяналу» Эжэна Пацье ніякага дачынення да працоўнага класу не мае. Іншая справа — наменклатура. Таму выпадак з Пуціным — не выключэнне, а правіла. З АП, між іншым, у пачатку 1990-х адбылася аналагічная гісторыя.

Усім нам неаднаразова даводзілася сутыкацца з пытаннем: «Калі не ён, дык хто?» Пытанне гэта надзвычай папулярнае на постсавецкай прасторы. Пошукам адказу на яго, як правіла, займаюцца ў апазіцыйным асяродку. Шукаюць — і не знаходзяць.

Незалежная сацыялогія марнасць пошукаў пацвярджае. Напрыклад, у чэрвені 2016 года электаральны рэйтынг АП склаў 30%, а ў яго бліжэйшых апанентаў Караткевіч і Статкевіча — 5%, у Мілінкевіча і Някляева — 3%. Далей ідзе яшчэ шэраг вядомых у вузкіх апазіцыйных колах прозвішчаў са значэннем рэйтынгу ніжэй статыстычнай памылкі.

Усё звыкла. Усё заканамерна. Але ў гэтым спісе няма ніводнага прозвішча прадстаўнікоў улады. Ні кіраўніка ўрада, ні старшыні парламента!

Пры такой сацыялогіі не павінна здзіўляць актуальнасць пытання: «Калі не ён, дык хто?» Але сацыялогія толькі фіксуе рэальнасць, яна яе не фарміруе.

Пошукі крыніц феномену адзінага палітыка прапаную правесці з дапамогай дырэктара Лявада-цэнтра Льва Гудкова: «У параўнанні з рэйтынгам папулярнасці палітыкаў у дэмакратычных краінах, дзе існуе палітычная і эканамічная канкурэнцыя і ёсць свабодная прэса, адкрытая крытыка ўлады. Мы маем справу зусім з іншай з'явай — гэта арганізаваны кансенсус, які трымаецца на вельмі магутнай машыне прапаганды (вылучана. — рэд.)».

**Ленін думае пра нас**

На якой падставе футбольныя фанаты лічаць Ліянэля Месі вялікім футбалістам? Безумоўна, прэса не абыходзіць яго бокам, ды і рэкламадаўцы да яго добразычлівыя. Але следства не варта блытаць з прычынай. Месі, перш за ўсё, футбаліст, які забівае ў кожным сезоне больш за 30 галоў. Хочаце стаць другім Месі і зарабляць звыш 100 мільёнаў долараў на год? Няма праблем. Пачынайце рэгулярна забіваць лепшым камандам свету.

АП на беларускім палітычным полі гуляе ў ганаровай адзіноце. Ён забівае мячы ў браму, у якой няма брамніка. Таму і актуальнае пытанне: «Калі не ён, дык хто?» Між тым, спецыялістаў, здольных забіваць у пустую браму, знойдзецца ў Беларусі калі і не мільён, то ўжо сотня тысяч гарантавана. Але якімі б ні былі іх асабістыя якасці, шанцаў быць дапушчанымі паганяць мяч па палітычным полі ў іх няма. Не для таго чвэрць стагоддзя таму АП «падняў уладу з бруду».

Каб азнаёміцца са спецыфікай працы машыны беларускай прапаганды, далёка хадзіць не трэба. Прапаганда — на тое і прапаганда, каб быць публічнай. Ненавязлівасць не з'яўляецца яе моцнай бокам.

Возьмем які-небудзь выпадкова абраны прэс-рэліз з сайта АП. Напрыклад, за 21 траўня 2019 года — ён прысвечаны нарадзе па актуальных пытаннях эканомікі. Сапраўды, больш значную тэму адшукаць складана. Нездарма ж АП пастаянна нагадвае нам, што падмуркам пасьпяховай дзяржавы з'яўляецца моцная эканоміка.

І якую інфармацыю пра стан беларускай эканомікі мы можам даведацца з прэс-рэлізу? Абсалютна ніякую. Прыводжу тыповы фрагмент дакумента: «Хацелася б пачуць ад прэм'ер-міністра і віцэ-прэм'ераў, якая сітуацыя ў нас з экспартам. Натуральна, найважнейшае пытанне — валавы ўнутраны прадукт. Які ў нас рух у гэтым кірунку?»

Інтрыгуючы пачатак, пагадзіцеся. Праблема, аднак, палягае ў тым, што нічога, акрамя пытанняў АП, тэкст прэс-рэлізу не ўтрымлівае. Пытанні ёсць, а адказаў на іх няма. Такі вось своеасаблівы рэмейк маналогу сатырыка Міхаіла Жванецкага «Сход на лікёра-гарэлачным заводзе» з яго знакамітым рэфрэнам: «Шкада, што мы так і не здолелі паслухаць начальніка транспартнага цэху».

Для чаго ж тады такі «змястоўны» дакумент быў размешчаны на галоўным дзяржаўным сайце? У чым яго сэнс? З якой мэтай падобныя дакументы потым тыражуюць дзяржаўныя СМІ?

А сэнс якраз і палягае ў тым, каб пераканаць чытачоў у наяўнасці ў краіне адзінага палітыка, які ўвесь час трымае руку на пульсе краіны і якому ёсць справа да ўсяго. Карацей, «Ленін думае пра нас».

Гэтай жа мэце служаць рэгулярныя наведванні АП прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ЛУКАШЭНКА — 25

# КУДЫ ЁН НАС ЗАВЁЎ?

**Нагода для святкавання ёсць, але святочных усмешак бракуе. Кіраўнікі краінаў, якія ўваходзяць у Еўразійскі эканамічны саюз, адзначылі ў Нур-Султане пяць гадоў з моманту падпісання Дамовы аб ЕАЭС. Для беларускага кіраўніка гэта не адзіная гадавіна сёлета. У снежні мінае 20 гадоў з моманту падпісання Дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, а ўжо ў ліпені — 25 гадоў з таго дня, як Лукашэнка зрабіўся прэзідэнтам Беларусі.**

Ці ёсць што святкаваць, высвятляла Вольга Жарнасек.

Пяць гадоў для кожнага хаўрусу — дастаткова тэрмін, каб зрабіць першыя падсумаванні і падзяліцца назіраннямі. «Еўразійскі эканамічны саюз мае аўтарытэт на міжнароднай арэне. Часам мы чуем, чытаем дый самыя кажам, што з намі нібыта не хочуць супрацоўнічаць. Проста зайздросцяць», — запэўнівае Аляксандр Лукашэнка.

Надзвычай пазітыўная ацэнка. Але літаральна ў сакавіку падчас «Вялікай размовы» кіраўнік Беларусі ацэньваў ЕАЭС зусім інакш: «Я вялікіх надзеяў не маю ў плане нашага Еўразійскага эканамічнага саюзу».

Ці штосьці змянілася за гэты час? Наўрад ці. Розныя, а часам супрацьлеглыя меркаванні для розных аўдыторыяў — даўно і добра вядомы стыль вонкавай палітыкі Аляксандра Лукашэнкі. Што да рэальнай ацэнкі ЕАЭС, то эксперты не маюць сумневаў.

Валер Карбалевіч, палітычны аглядальнік: «Еўразійскі эканамічны саюз — гэта, паводле праекту Расеі, праграма геапалітычная. Сэнс яе ў тым, каб Расея магла ўплываць на постсавецкую прастору, трымаць яе пад кантролем».

Сапраўдным хаўрусам цяжка назваць і гэтак званую Саюзную дзяржаву Расеі ды Беларусі, якая сёлета адзначае 20-гадовы юбілей. «Гэта быў 1999 год, калі ў Расеі прэзідэнтам быў стары, хворы, непапулярны Ельцын, а ў Беларусі тады на пад'ёме быў малады, энергічны, харызматычны Лукашэнка», — згадвае Валер Карбалевіч.

Планы Лукашэнкі ачоліць новае ўтварэнне перакрэсліў таксама малады і не менш энергічны пераемнік Барыса Ельцына. З таго часу Беларусь пад кіраўніцтвам Лукашэнкі атрымала безліч эканамічных прэферэнцыяў, што прывяло да істотнай залежнасці беларускай эканомікі ад Крамля.

На думку Карбалевіча, Расея, якая была доўгі час галоўным спонсарам і галоўнаю крыніцаю выжывання беларускага рэжыму, сёння становіцца крыніцаю пэўных праблемаў. Праблемаў і пэўных пагрозаў.

Пагроза стала відавочнаю пасля анексіі Крыму Расеяй і пачатку ўзброенага канфлікту на Данбасе, інспіраванага Масквою. З'явіліся пытанні, ці Беларусь стане наступнаю.

Аляксандр Сыцін, палітолаг Цэнтру палітычных дасьледаванняў Паўночнай і Усходняй Еўропы, Расея: «З гледзішча Расеі, Беларусь — гэта не асобны народ і не асобная тэрыторыя. А Саюзная дзяржава — гэта так, нейкая праформа. Таму пры найменшай пагрозе, спробе Беларусі нейкім чынам адысці да Захаду, магчымыя абсалютна любыя сцэнары. Можа, акрамя рэальных танкаў на Менск».

Тым не менш расейская агрэсія ва Украіне змусіла шукаць Аляксандра Лукашэнку іншыя пункты апоры ў вонкавай палітыцы. Майстар балансавання ўзяў на сябе ролю міратворца ў расейска-ўкраінскім канфлікце і ўгаварыў бакі правесці ў Менску мірныя перамовы.с

Дзмітрый Грамакоў, сацыёлаг, кіраўнік даследніцкіх праектаў украінскага цэнтру «РАНД»: «Так, мы ўдзячныя Лукашэнку за наданне гэтай пляцоўкі і за тыя ўмовы, каб гэтыя сустрэчы ў прынцыпе адбыліся. Але сказаць, што ён адыгрывае нейкую ролю, — гэта дастаткова ўмоўна».

Так ці інакш, роля міратворца прынесла кіраўніку Беларусі канкрэтныя дывідэнды. У 2015 годзе Еўразвяз прыпыніў санкцыі супраць Лукашэнкі, а праз год канчаткова выдаліў яго са свайго чорнага спісу і пачаў запрашаць на Захад. 1 верасня кіраўніка Беларусі чакаюць у Польшчы, дзе адбудуцца ўрачыстасці памяці пра пачатак Другое сусветнае вайны.

*(скарочана)*

**"Белсат"**
**https://belsat.eu**

ПАЧАТАК ВАЙНЫ

# ЯКІ КАВАЛАК ВАЙНЫ ЗЬНІК У САВЕЦКІ ЧАС

**22 чэрвеня 1941 года нямецкія войскі напалі на СССР. І хаця заходні пункт савецкай мяжы і мяжы БССР знаходзіўся тады за 150 кілямэтраў ад Берасьця, менавіта з абароны крэпасьці савецкая прапаганда зрабіла адзін з галоўных мітаў вайны. Чаму прапаганда намагалася схаваць і забыць падзеі першага дня вайны ў самай заходняй кропцы БССР?**

Пра белыя плямы пачатку савецка-нямецкай вайны Свабодзе расказаў гісторык Андрэй Катлярчук, дацэнт унівэрсытэту Сэдэртарна ў Швэцыі.

**Пралік Сталіна**

Калі мы паглядзім на мапу БССР чэрвеня 1941 году, то пабачым, што там ёсьць клін — Беластоцкі выступ. У той час Беластоцкая вобласьць была заходняй мяжой БССР. Яе далучылі да Беларусі ў 1939 годзе на моцы пакту Молатава-Рыбэнтропа. І гэта быў пралік Сталіна. Бо вялікая мяжа зь Нямеччынай стварала тое, што савецкая прапаганда называла — «вераломны і нечаканы напад». Калі б быў калідор у выглядзе іншай краіны, то такі напад быў бы немагчымы.

**Вайна не была сюрпрызам для СССР**

22 чэрвеня ў Беластоцкай вобласьці знаходзіліся элітныя савецкія войскі, фактычна найлепшыя часткі 10-й арміі, у тым ліку 6-га мэханізаванага корпусу. Тысяча танкаў, адборныя часткі, якія чакалі нападу. 20 чэрвеня начальнік памежных войскаў усяго СССР Сакалоў нечакана прыехаў у райцэнтар Ломжа на самай акраіне Беластоцкай вобаласьці. Немцы дэманстратыўна вывелі тэхніку, гарматы, і паставілі іх насупраць пагранічных заставаў. Ужо ў той жа дзень памежная служба была пераведзеная на «ўзмоцнены варыянт нясеньня службы».

**Татальная катастрофа саветаў**

Вайна пачалася ў Аўгуставе і ў Ломжы. У ноч, калі немцы напалі, там адбылася татальная катастрофа. Большасьць памежнікаў загінула ў першых масіўных баях. Камандзір 87-га пагранатраду ў Ломжы Гурый Здорскі напісаў у мэмуарах, што разам са сваёй групай памежнікаў выйшаў з акружэньня ажно пад Рагачовам. У яго было 2 тысячы салдатаў і зь іх загінула 1600. Паніка, адступленьне, больш за 300 тысяч палонных на магістралі ад Беластоку да Слоніма. Была парушаная ўся сувязь, а трэба памятаць, што гэта быў цэнтар вайсковага кіраваньня. Паводле нямецкіх дадзеных, было пакінута больш за 3 тысячы танкаў, абсалютна непашкоджаных, 245 самалётаў.

**Разьня на Беласточчыне вырашыла кампанію 1941 году**

На пытаньне, чаму праз тыдзень немцы былі ўжо ў Менску, а 10 ліпеня — пад Смаленскам, адказ адзін — Беластоцкі выступ. Многія гісторыкі лічаць, што прычынай фіяска савецкіх войскаў стаў памылковы сцэнар Генэральнага штабу. Савецкія вайскаводы чакалі галоўнага ўдару на Ўкраіне, а ён прыпаў на Беласток. Кіеў змагаўся і быў захоплены ўвосень 1941-га, а ў Менску, трэцім найважнейшым цэнтры СССР, немцы былі ўжо праз тыдзень. Не пасьпела адбыцца эвакуацыя, і наступствы гэтага былі драматычныя. Тое, што адбылося там у чэрвені, і вырашыла кампанію 1941 году.

**Вінаватых — расстраляць**

Кіраўніцтва Заходняга фронту было 2 ліпеня выклікана Сталіным у Маскву. Генэрал Дзьмітрый Паўлаў і ўсе яговыя намесьнікі былі расстраляныя па артыкулах за «нядбайнасьць» і «невыкананьне сваіх службовых абавязкаў». Пасьля сьмерці Сталіна яны былі рэабілітаваныя.

**Забыць, бо ня ўпісваецца ў канцэпцыю**

Падзеі на Беласточчыне пасьля вайны замоўчваліся, бо псавалі гераічны міт вайны, дзе было месца толькі перамогам. Калі б пра гэта казалі ў савецкія часы, то давялося б тлумачыць, як так, што тэрыторыя СССР і БССР, якая да вайны была наша, ужо ня наша. Савецкая канцэпцыя «чужой зямлі ня трэба, сваёй не аддамо» тут не спрацоўвала. Таму гэты кавалак вайны цалкам зьнік у савецкі час.

**Дзьмітры Гурневіч**
**"Радыё Свабода"**

II ЕЎРАПЕЙСКІЯ ГУЛЬНІ

# ПАГОНЯ, ВІТАЎТ, ШАГАЛ, БЫКАЎ

**На стадыёне «Дынама» ў Мінску прайшло афіцыйнае адкрыццё II Еўрапейскіх гульняў. Маштабнае шоу было пакліканае адлюстраваць беларускія традыцыі, каштоўнасці і гісторыю.**



Таму на сцэну выходзілі танцоры, стылізаваныя пад персанажаў батлейкі. Ажылі касцюмы Бакста і карціны Шагала — усе гэтыя мілыя закаханыя і казлы. Была свая цэльнасць у гэтай эклектыцы: усё пачалося з песні Пахмутавай «Молодость моя, Белоруссия», а пасля былі і беларускія этна-спевы, і Ганна Нятрэбка з Ігарам Крутым.

Жарэс Алфёраў змяняў Вітаўта і рыцараў Вялікага Княства з калюмнамі і Пагонямі.

У тэлевізійнай версіі Пагоня засталася амаль незаўважнай.

Былі Усяслаў Полацкі і праслаўленыя нядаўняй знаходкай шлемы, Леў Сапега са Статутам ВКЛ і інжынер Казімір Семяновіч, Ефрасіння Полацкая і авіяканструктар Сухой.

Усё гэта суправаджалася дэкламацыяй складаных вершаў — у тым ліку «Спадчыны» Купалы, «Усе мы разам ляцім да зор» Багдановіча, а таксама Адама Міцкевіча.

Адным з рэжысёраў цырымоніі адкрыццё стаў беларус Аляксандр Вавілаў. Ён падрыхтаваў аснову, з якой пазней працавалі расіяне з кампаніі кампазітара Ігара Крутога, якая выйграла тэндар. Цырымонія складалася з сямі эпізодаў, кожны з якіх быў прысвечаны сюжэту з гісторыі і культуры Беларусі: Купаллю, Сярэднявеччу, сучаснасці і гэтак далей.

А тэлевядоўца з гонарам расказаў, што ў часы Вітаўта наша дзяржава прасціралася ад мора да мора і ад Буга да Угры.

Ушанавалі і старажытны род Радзівілаў.

Спявалі беларускія музычныя зоркі — ад «Тройцы» да оперных зорак Сільчукова і Ляўчук.

Варта адзначыць, што ўвогуле адкрыццё атрымалася вельмі беларусацэнтрычным, разлічаным на ўзмацненне гонару за Беларусь.

Нібы фінальный кропкай стала ўвасобленае на ручніку выказванне Васіля Быкава з «Сотнікава»: «Адзіная рэальная каштоўнасць у чалавека на свеце — яго жыццё».

З гэтым гуманістычным матывам перагукаліся словы Аляксандра Лукашэнкі ў ягоным выступе перад тым як запалілі Агонь гульняў. Ён заклікаў, каб дзяржавы вызначылі самую магутную выключна на спартовых арэнах.

Прэзідэнт Еўрапейскіх алімпійскіх камітэтаў Янез Качыянчыч выступіў па-беларуску, чым сарваў авацыю трыбун. А вынеслі алімпійскі сцяг і запалілі агонь — у выглядзе Папараць-кветкі — вялікія беларускія спартоўцы мінулых гадоў.

**Зміцер Панкавец**
**Сяргей Гезгала**

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# ЛУКАШЕНКО В КАПКАНЕ

**Неужели Кремль почти дожал? Подходы Москвы и Минска в вопросах интеграции сблизились на 90%, заявил российский министр экономического развития Максим Орешкин. Несколько недель назад белорусский премьер Сергей Румас говорил, что так называемое углубление интеграции согласовано на 70%.**

Орешкин подчеркивает, что обсуждение идет строго в рамках союзного договора, подписанного в 1999 году. Но в том-то и фишка, что тогда молодой президент Александр Лукашенко подмахнул документ, реализация которого грозила и сегодня грозит Беларуси потерей суверенитета, пишет политолог Александр Класковский в своей колонке на «Белсате».

Злые языки поговаривают, что амбициозный «славянский витязь» Лукашенко метил на место старого больного Бориса Ельцина. Но место занял цепкий Владимир Путин, который стал форсировать вопрос элегантного поглощения Беларуси под маркой «братского единения».

Так Беларусь оказалась в капкане вместе с вождем. Правда, первые атаки Кремля в минувшем десятилетии Лукашенко отбил. Всеми правдами и неправдами отбоярился от единой валюты, заявив журналистам, что за зарплатой в Кремль ездить не собирается…

**Две ошибки белорусского вождя**

Первая ошибка Лукашенко была в том, что он понадеялся обхитрить империю, затеяв с ней игру в «братскую интеграцию». Но эпоха «нефти за поцелуи» закончилась. Империя решила встать с колен, показала свою хватку на Грузии, Украине, а теперь вот взяла в оборот и Минск.

Вторая ошибка Лукашенко в том, что он надеется как-то разрулить ситуацию с Путиным, не проводя реформ и не подключая народ.

Но без трансформации страшно привязанная к ресурсам и рынку России белорусская экономика будет слабеть, а значит, будет таять и ресурс сопротивления кремлевскому нажиму. Без сильного политического класса и мощного, национально сознательного гражданского общества не будет духовных гарантий независимости.

Однако правящий Беларусью четверть века Лукашенко очевидно боится дать отмашку на реформы и открутить гайки в общественно-политической сфере. Ведь могут зашататься устои личной власти. Так что — тащить и не пущать. Назначая на прошлой неделе нового министра внутренних дел, глава государства дал красноречивый наказ: «Тот, кто заслуживает по башке или по морде, — должен получить».

Страны Балтии на рубеже 1990-х использовали исторический шанс, чтобы оторваться от империи. Да, рай земной не построили, но зарплаты там в разы выше белорусских, и шантажировать вентилем эти государства ЕС и НАТО Москва уже не может.

В белорусском же случае петля надежна, и Кремль не торопится. Не грозит танками и зелеными человечками. Он издевательски вежлив: а помните бумаженцию, которую подписали на излете прошлого тысячелетия? Ну так что, будем сближаться или строить из себя оскорбленную невинность?

Не бывает «братской интеграции» с империей. Дай мизинчик — откусит руку.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**https://belaruspartisan.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку** 28.06.2019 у 17.10
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.